

Жыве Беларусь!

# Народная газета

Орган Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь

№19(532) 27 студзеня 1993 г. Серада. Выдаецца з кастрычніка 1990 года на беларускай і рускай мовах. Кошт у розніцу — 4 руб.


## ФАКС

### Независимая на зависимом бюджете?

**В Лоеве по инициативе Минского института радиационной безопасности создается независимая лаборатория по проверке продуктов питания на содержание радионуклидов.**

Независимая — звучит, конечно, впечатляюще. Но финансировать ее, оказывается, будет Госкомчернобыль.

**Анатолий ИВАНОВ.**

### Все о Громаде

**В Минске имеются в продаже материалы о Белорусской социал-демократической громаде.**

В них рассказывается об истории социал-демократического движения в республике, а также о II съезде БСДГ, который состоялся в конце прошлого года.

Телефон для справок 46-46-91.

**Константин ЧЕКОВ.**

### "Спартак" и Эрос — близнецы-братья

**В оазис эротики превратился старейший в Витебске кинотеатр, названный в послереволюционные годы именем восставшего раба.**

Отныне только в "Спартаке" будут демонстрироваться фильмы, которые несовершеннолетним смотреть не рекомендуется. А поскольку таких лент теперь большинство, есть опасность, что остальные кинотеатры восстанут против привилегии "Спартаку". Тем более что из-за цены билета, приближающейся к 100 рублям, количество зрителей и так резко снижается.

**Сергей СЕРГЕЕВ.**

### На смену Мясникову придет князь Менский

**Комиссия по названию и переименованию улиц и площадей Минского горисполкома рассмотрела вопрос о присвоении новых названий улицам, прилегающим к площади Независимости.**

Обсудив ряд предложений, комиссия пришла к решению о переименовании улицы Свердлова в улицу Вацлава Ластовского, Мясникова — в улицу князя Глеба Менского, Берсона — в улицу Адама Станкевича. Относительно новых названий улиц Володарского и Урицкого мнения разделились. Одни предложили переименовать улицу Володарского в улицу князя Рогволода, Урицкого — в улицу княгини Рогнеды. Другие — соответственно в Городской Вал и Романовскую Слободу. Окончательно судьбу названий этих улиц должен вскоре решить горисполком. А в будущем поменяют свои названия также улицы Советская, Комсомольская и Интернациональная.

**Александр МОЛЧАНОВ, БелаПАН.**

### Нашел невод на косу

**Поистине браконьерские замашки продемонстрировали работники Витебского рыбхоза.**

Бригада под командой А.Петрова опустила невод в зимовальную яму озера Берново, что в Городокском районе. Улов был бы знатным, если бы снасть не распоролась, наткнувшись, вероятно, на вмороженную в лед косу: таким нехитрым способом местные жители охраняют водные угодья от неуемных промысловиков. Не считая испорченного невода, нарушители запрета, установленного своим же ведомством, отделались смехотворным штрафом в 300 рублей...

**Сергей БУТКЕВИЧ.**

### Вкратце

**Завтра в Бонне открывается германо-белорусский День экономики, в программе которого предусмотрено обсуждение возможностей экономического сотрудничества между двумя странами.**

С белорусской стороны в работе этого форума примет участие делегация во главе с заместителем Председателя Совета Министров республики Сергеем Лингом.

❑

**Для подписания договора о сотрудничестве с Федерацией независимых профсоюзов Молдовы в Кишинев отбыла вчера делегация Совета ФПБ.**

Свои взаимоотношения профсоюзы Беларуси и Молдовы намерены строить на основе дружбы, солидарности, разностороннего партнерства, координации действий по социальной защите людей труда. Особым пунктом будет оговорено сотрудничество в организации лечения и отдыха трудящихся и детей, пострадавших от аварии на ЧАЭС.

❑

**Международная ярмарка "Компьютер ЭКСПО-93" открылась вчера в польской столице.**

Это проводимое в Варшаве уже в восьмой раз торговое мероприятие считается крупнейшим такого рода в Восточной Европе. На этот раз электронно-вычислительную технику, программное обеспечение, другие сопутствующие товары выставляют здесь более 720 фирм всего мира.

❑

**Фонд помощи писателям-беженцам и их семьям учрежден Международным сообществом писательских союзов.**

❑

**Находящийся в Нидерландах с официальным визитом канцлер ФРГ Гельмут Коль выступил за политическое и экономическое объединение Европы.**

❑

**Совет Безопасности ООН заявил, что экономическая блокада Ирака будет продолжена.**

Такое решение принято после того как эксперты ООН потребовали у Багдада передать им полный список западных компаний, снабжавших Ирак материалами для реализации ядерных программ. Иракские же официальные лица утверждают, что ими уже названы 90 процентов таких фирм, но ничего не говорят о том, когда сообщат названия остальных.

❑

**Демонтаж ядерного оружия России как вопрос чрезвычайной важности будет обсуждаться на встрече глав государств и правительств семи промышленно развитых стран мира, которая состоится в июле в Токио.**

Об этом заявил вчера премьер-министр Японии К. Миядзава.

❑

**Пакистан заключил с Польшей сделку на закупку 400 танков Т-72 новейшей модификации.**

(По сообщениям "Народной газеты", ИТАР—ТАСС, Белинформ.)




Рисунок Олега ПОПОВА.

### Спорт-экспресс

В первом матче Кубка Содружества футболисты минской "Беларуси" победили ереванский клуб "Оменындмен" — 2:0.

❑

Хоккеисты минского "Динамо" проиграли в очередной встрече первенства МХЛ ярославским торпедовцам — 0:3.

❑

Минчанка Наталья Зверева выбыла из борьбы на открытом чемпионате Австралии по теннису, проиграв юной американке Джефери Каприати — 5:7, 5:7.

❑

В очередной встрече розыгрыша МПБЛ баскетболисты минского РТИ уступили у себя дома луганскому "Спартаку" — 78:84.

### Вчера услышали

**Министерство иностранных дел Нидерландов отказалось выдать въездную визу в эту страну президенту Чечни Джохару Дудаеву.**

Эта мера была предпринята по просьбе российского посольства в Гааге. Причины пока неизвестны.

❑

**Вице-премьер России Анатолий Чубайс заявил, что к концу нынешнего года в стране будет приватизирована большая часть государственной собственности.**

(По сообщениям радиостанций "Свобода" и Би-би-си.)

### Виткомбанк — это надежно и выгодно

**Расхожее мнение о том, что считать чужие деньги — неудобно, опровергают работники Витебского коммерческого банка.**

Средняя зарплата в этом учреждении за декабрь составила 49 тысяч рублей. У сотрудников государственных органов управления жалованье поскромнее — чуть больше 10 тысяч рублей, а на мотороремонтном заводе — около 7 тысяч. В проектных же организациях есть люди с окладами в три с небольшим тысячи рублей.

**Борис МАКСИМОВ.**

### Кондуктор, тебя ждут!

**Не исключено, что в городском транспорте Могилева скоро появятся когда-то упраздненные кондукторы.**

Только так, по мнению многих депутатов горсовета, можно добиться от пассажиров оплаты за проезд. Сегодня же в автобусах и троллейбусах, по данным работников транспорта, бесплатно ездит более половины горожан. От этого транспортники несут колоссальные убытки. Проблема перевозки горожан, а также работы автобусов и троллейбусов будет в ближайшее время рассмотрена на оперативном заседании исполкома. Там и решат, быть в городе кондукторам или нет.

**Николай КОМЛЕВ.**

*На сесіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь*

# Парламент даў бюджэту "дабро". А што скажа жыццё — пабачым...

**Павел СТАСЕВІЧ**

Вячэрняе пасяджэнне папярэдняга дня было адзначана спробай парламентарыяў трохі "адпачыць" ад пытанняў па фарміраванню бюджэту і ўсё ж паставіць кропку над "і" ў зямельных праблемах.

Старшыня Камісіі па аграрных пытаннях У.Гаркун прадставіў на разгляд дэпутатаў праект пастановы па Закону "Аб праве ўласнасці на зямлю". Аднак згоды па гэтаму дакументу зноў не было — у гарачых выступленнях многія дэпутаты засцерагалі калег ад спрошчанага падыходу да выключна важнай справы.

Тут трэба сем разоў падумаць перад тым, як адрэзаць, — вось, вобразна кажучы, галоўны аргумент, які гучаў у парламенцкай зале. Гэты слушны довад большасцю дэпутатаў быў падтрыманы — праект пастановы па зямельнаму пытанню будзе дапрацоўвацца.

Потым працягнулася абмеркаванне закона аб дзяржаўным бюджэце на бягучы год.

Дэпутаты працавалі нетаропка, "коней не гналі", і "закрыць" бюджэт да канца дня не ўдалося — з грашыма не жартуюць.

Учора з ранку, у "Розным", дэпутаты зноў данеслі ў парламенцкую залу голас народа. В.Шкурко расказаў, як ціснуць на прадпрыемствы ў дзесяткі разоў узросшыя выдаткі на ўтрыманне камунальнага жылля. М.Крыжаноўскі гаварыў пра хібы ў пераразліку пенсій. У.Русакевіч з горыччу апавядаў, як літаральна гіне ад няўвагі і запушчанасці мемарыяльны комплекс "Брэсцкая крэпасць-герой". А.Паўлоўскі абураўся "всеобщей обдираловкой", якая зараз пануе ўсюды, і перакупшчыкі жыруюць на дзяржаўным багацці. М.Лобач падымаў пытанне аб належным забеспячэнні так званай "рублевой массой". А.Малахоўскі, як і В.Шкурко, гаварыў пра жыллёва-камунальныя праблемы. В.Трафіменка заклікаў парламентарыяў і ўрад больш рашуча змагацца са спекуляцыяй і спекулянтамі і нават падрыхтаваць адпаведны закон. М.Даменікан расказаў аб "цяжбе" за зямлю, якая ідзе паміж Баранавіцкім і Слонімскім раёнамі.

Пасля такой прэлюдыі дэпутаты зноў узяліся "грызці" граніт дзяржаўнага бюджэту.

Канцы з канцамі ў ім, як вядома, сходзяцца цяжка, таму недахопу ў спрэчках і процілеглых меркаваннях не было. Старшыня Планавай і бюджэтна-фінансавай камісіі Р.Унучка на трыбуне змагаўся ўмела, яго ў цяжкія моманты падтрымлівалі прадстаўнікі ўрада.

Пра канкрэтныя лічбы і спрэчкі гаварыць падрабязна, мяркую, няма сэнсу — усё будзе бачна, як на далоні, калі бюджэт прадстане на вочы грамадскасці. Зазначу галоўны вынік — дзяржаўны бюджэт рэспублікі на 1993 год у рэшце рэшт прыняты. Ці будзе гэты грашовы баланс інтарэсаў адпавядаць рэальнаму жыццю — пакажа час. Тут справа не толькі ў рабоце парламента і ўрада, але і кожнага з нас.

Затым на парадак дня былі вынесены некаторыя кадравыя пытанні. Найбольш значнае з іх — аб намесніку Старшыні Вярхоўнага Савета рэспублікі. Нагадаю, што гэтую пасаду займаў да прызначэння Генеральным пракурорам В.Шаладонаў.

Слова для прапановы ўзяў Станіслаў Станіслававіч Шушкевіч і назваў сваю кандыдатуру — Пятра Антонавіча Міцько, члена Прэзідыума Вярхоўнага Савета, старшыню Камісіі па справах сям'і і моладзі: "Гэта вельмі высокасумленны, вельмі працавіты чалавек...", — так, у прыватнасці, абгрунтаваў С.Шушкевіч сваю прапанову.

Затым свае погляды на вырашэнне розных праблем нашага жыцця выказаў П.Міцько.

Пачалося абмеркаванне кандыдатуры. Было яно непрацяглым — катэгарычных "супраць" у выступленнях ад мікрафонаў не было.

Але ж парламенцкае жыццё — загадка. Тайнае галасаванне дало зусім іншы вынік — П.Міцько "не прайшоў". Пасада намесніка Старшыні Вярхоўнага Савета застаецца вакантнай...

Затым дэпутаты пачалі разгляд праекта Закона "Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у Закон Рэспублікі Беларусь "Аб прадпрыемствах у Рэспубліцы Беларусь". Яго прадстаўляў старшыня Камісіі па прамысловасці і паслугах насельніцтву А.Кулічкоў.

Паартыкульнае абмеркаванне было працяглым і няпростым — дэпутаты шукалі шляхі, каб і прадпрыемствам жылося лепей і весялей, і дзяржаве. Але ж запрэгчы ў адну вупраж "коня и трепетную лань" заўсёды няпроста. Эмацыянальныя спрэчкі ўспыхвалі не раз — на дзённым пасяджэнні парламентарыі "закрыць" законапраект не змаглі, паартыкульнае абмеркаванне прадоўжылася і пасля перапынку...

*Актуальна*

## Заўтра ў Беларусі адбудуцца 264 злачынствы?

### У МУС рэспублікі дзевяць генералаў міліцыі адказвалі на пытанні журналістаў

**Андрэй ЮДЧЫЦ**

### З інфармацыі міністра ўнутраных спраў генерал-лейтэнанта Ягорава У.Д.

● У мінулым годзе ў Беларусі зарэгістравана 96 тысяч злачынстваў, плюс 18 працэнтаў да папярэдняга года.

● Арганізаванымі злачыннымі групоўкамі здзейснена 13 працэнтаў злачынстваў. У іх удзельнічалі каля 20 тысяч чалавек.

● Выяўлена ў 1992 годзе больш за 200 ствалоў наразной зброі, у тым ліку кулямёты, аўтаматы, карабіны, пісталеты. Знойдзены дзесяткі тысяч боепрыпасаў.

● Пры барацьбе з эканамічнай злачыннасцю толькі ўкрадзеных каляровых металаў выяўлена на 1 мільярд 73 мільёны рублёў.

● У адпаведнасці з Законам аб абароне спажывецкага рынку затрымана тавараў на 1 мільярд 570 мільёнаў рублёў.

● Наступае — наркаманія. Ціхая Беларусь стала як бы транзітнай базай для перапраўкі наркотыкаў, бо там, дзе гэта зелле раней вазілі туды-сюды, там цяпер амаль паўсюдна страляюць. У нас на ўліку знаходзяцца 567 "прафесійных" наркаманаў.

● На рахунку падлеткаў — 8412 злачынстваў. "Пацаны" ідуць на забойствы, грабяжы, разбоі. З'явіліся бяздомныя дзеці. На ўліку органаў МУС больш за 25 тысяч малалетніх правапарушальнікаў.

● Такія вось трывожныя лічбы і факты. А колькі іх прайшло міма міліцэйскага сіта? Узровень жа раскрываемасці злачынстваў — 75 працэнтаў...

### Пытанні, пытанні — і адказы

**— Была нядаўна ўведзена дзяржаўная манаполія на гандаль спіртнымі напіткамі і тытунёвымі вырабамі. Аднак на справе амаль нічога не змянілася.**

— У прынятую пастанову ўнеслі карэктывы. Засталася манаполія на прадукты, якія вырабляюцца ў Беларусі. Аднак ёсць нямала фактаў, калі дзяржаўныя прадпрыемствы адпускаюць сваю прадукцыю камерцыйным структурам.

**— Як вы адносіцеся да прыватных пошукавых бюро?**

— Яны, відаць, маюць права на існаванне. Выдадзена ўжо 25 дазволаў на стварэнне такіх бюро. Але нядаўнія праверкі паказалі: займаюцца яны часам не тым, на што бралі дазвол. Ёсць там людзі проста выпадковыя.

**— Наколькі МУС зацікаўлена ў супрацоўніцтве з "Інтэрполам"?**

— Патрэба ў такім супрацоўніцтве ёсць. Бо, напрыклад, выязджаюць нашы рэкеціры ў Польшчу, а мы не можам іх дастаць. Праўда, для ўступлення ў "Інтэрпол" патрэбны вялікія сродкі. Будзем шукаць іх.

**— Ці не схіляецца кіраўніцтва МУС да легалізацыі самагонаварэння?**

— Не. Яно прыносіла і прыносіць вялікую шкоду грамадству.

**— Многа розных размоў пра выпадак з народным дэпутатам Беларусі Дзмітрыем Булахавым...**

— Так, было дарожна-транспартнае здарэнне. Усе неабходныя следчыя дзеянні выкананы. А паколькі Булахаў не толькі народны дэпутат, але яшчэ і афіцэр міліцыі, то МУС усе матэрыялы перадало ў Пракуратуру Беларусі. Там і зробяць канчатковае заключэнне.

**— Кажуць, з Польшчы коціцца на нас вал злачыннасці...**

— Спадзяёмся, што генерал Сівіцкі — начальнік брэсцкага УУС не прапусціць гэты вал на Беларусь.

**— Старога свята — Дня міліцыі — быццам ужо няма. Дык ці будзе ў беларускай міліцыі сваё свята?**

— Беларуская міліцыя была створана 4 сакавіка 1917 года. Так што, спадзяёмся, 4 сакавіка 1994 года мы сустрэнем сваё прафесійнае свята. Сустрэнем у новай форме — форме беларускай міліцыі.

Шмат было пытанняў і адказаў на гэтай сустрэчы ў МУС Беларусі.

Галоўны вывад, відаць, такі: сітуацыя ў рэспубліцы знаходзіцца пад кантролем.

Аднак не дае спакою адна лічба: у мінулым годзе кожныя суткі ў сярэднім адбывалася 264 злачынствы. 264 загубленыя лёсы, жыцці, шчасці...

Барані нас, Божа, ад такой сумнай статыстыкі.

*Да ведама!*

### Сетка захоўваецца, тарыфы — новыя

Як паведаміла служба інфармацыі Савета Міністраў, урад Беларусі прыняў распараджэнне, якім пацверджана захаванасць узгодненай з Федэрацыяй прафсаюзаў 28-разраднай адзінай тарыфнай сеткі рабочых і служачых народнай гаспадаркі рэспублікі, і ўстанавіў з 1 студзеня 1993 года наступныя міжразрадныя тарыфныя каэфіцыенты: з 1-га па 3-і разрад — 1,25, з 3-га па 8-ы — 1,14, з 8-га па 21-ы — 1,1, з 21-га па 28-ы разрад — 1,09.

**Белінфарм.**

*Аглядальнік "Народнай газеты" Уладзімір Самойлаў дзеліцца ўражаннямі ад сустрэчы з прэзідэнтам Польшчы*

## Лех ВАЛЕНСА: "Калі мы самі сабе не паможам, нам ніхто не дапаможа"

**Пяць дзён, што правяла ў Варшаве па запрашэнню польскага ўрада група журналістаў з Беларусі і Расіі, былі вельмі насычанымі. Мы наведалі адзін з буйнейшых банкаў і біржу каштоўных папер, вялікі і яшчэ дзяржаўны трактарны завод і маленькую, але прыватную фірму, сустрэліся з намеснікам міністра пераўтварэння форм маёмасці і пабывалі ў рэдакцыі мясцовай эканамічнай газеты.**

Але, напэўна, найбольш цікавай была сустрэча з прэзідэнтам Польшчы Лехам Валенсам. Ён прыняў нас у сваёй рэзідэнцыі—Бельведэрскім палацы, дзе жыве і працуе з той пары, як стаў на чале дзяржавы, якая адна з першых ва Усходняй Еўропе пайшла па шляху радыкальных рэформ.

Сустрэча была цікавай не толькі таму, што нас прымаў самы высокі кіраўнік дзяржавы, кожнае слова якога напоўнена гістарычным сэнсам, а перш за ўсё таму, што з намі гутарыў чалавек, які, нягледзячы на тое, што лёс узняў яго ад звычайнага рабочага да вяршынь улады, захаваў у сабе рысы простага паляка, здольнага задумвацца і смяяцца, спрачацца і слухаць, сумнявацца і пераконваць.

—Усе пытанні могуць быць зададзены, але не ўсе адказы могуць быць да канца выказаны,—сказаў Валенса на пачатку нашай гутаркі. І гэта не былі словы няшчырага чалавека. У Польшчы ўзнікае шмат пытанняў, на якія пакуль што жыццё не можа даць адказ.

Памятаецца, як пазамінулым годам у Мінск прыязджалі некалькі польскіх эканамістаў, і ў тым ліку амерыканец турэцкага паходжання, якія праводзілі першы этап прыватызацыі ў Польшчы. Тады яны расказвалі, што справа гэтая аказалася зусім не такой простай, як здавалася некаторым спачатку.З прыватызаваных буйных прадпрыемстваў амаль палова дыхала на ладан, і патрабавалася дзяржаўная падтрымка, каб яны наогул не перасталі існаваць.

Пабываўшы на біржы каштоўных папер, мы пераканаліся, што і зараз справы ідуць не сказаць каб вельмі паспяхова. З некалькіх тысяч прыватызаваных прадпрыемстваў акцыі толькі шаснаццаці прадаюцца і пакупаюцца тут. Ды і не заўсёды кошт іх расце, што гаворыць аб тым, як цяжка развіваць вытворчасць ва ўмовах пераходнага перыяду ад сацыялізму да капіталізму.

Як ставіцца Валенса да гэтых праблем? — такое пытанне задаў аглядальнік "Народнай газеты".

— Не думаю, што амерыканцы могуць лепш прыватызаваць нашу эканоміку, чым мы самі, — так пачаў свой адказ пан прэзідэнт. Яны сваю сістэму будавалі зусім у іншых умовах. Сам рынак і канкурэнцыя ў гэтай краіне стварылі новыя адносіны. Таму, калі там не было ўрада,гэтая сістэма развівалася нават лепш, чым калі ўрад існаваў.

Акрамя таго, яны не прайшлі "школы" сацыялізму і камунізму і лічаць, што ва ўсім яны вінаваты. Але гэта не зусім так. І нам неабходна ўсё рабіць па-іншаму. Трэба больш давяраць калектывам фабрык і заводаў.

Зараз мы робім тое, што калісьці абяцаў працоўным Ленін. Аднак не выканаў сваіх абяцанняў. Патрэбна аддаць усе маленькія прадпрыемствы, магазіны і іншую маёмасць людзям, каб яны былі там сапраўднымі гаспадарамі.

А на буйных прадпрыемствах, у партах, на суднаверфях, у шахтах усё трэба зрабіць інакш. Але не па-амерыканску. Як у нас раней было? Спартыўны клуб на шахце. Свінаферма на шахце. Дзіцячы садок на шахце. На мой погляд, усё гэта трэба аддаць у іншыя рукі. Таксама, калі гэта магчыма, неабходна аддзяліць ад асноўнай вытворчасці дапаможную.

Памятаю, у нас быў турысцкі аўтобус, які выязджаў усяго некалькі разоў на год. У той жа час я не мог дабрацца на работу на грамадскім транспарце, дзе так не хапала машын.

Калі я быў электрыкам, — працягваў развіваць сваю думку прэзідэнт Валенса, — мы працавалі ў брыгадзе ўтраіх. Тады мы самі звярнуліся да кіраўніцтва, каб аднаго з нас скарацілі, а зарплату падзялілі паміж застаўшыміся. Аднак з намі не пагадзіліся. Усё засталося па-ранейшаму.

З другога боку, не хачу сказаць, што ўсё дзяржаўнае дрэнна. Калі будзе створаны моцны прыватны сектар, і дзяржаўныя прадпрыемствы падцягнуцца. Але гэтага не адбудзецца, калі не будзе сапраўднай канкурэнцыі.

Зразумела, можна сказаць, што прыватызаваныя прадпрыемствы не так добра працуюць, як хацелася б. Але тут не ўсё так проста. Многія з іх ствараліся, калі яшчэ не быў разбураны наш былы рынак. Прадукцыя, якая на іх выраблялася, яшчэ была патрэбна вам, ці немцам, ці чэхам. А зараз вы па розных прычынах не купляеце яе. Вось і прыходзіцца рэзка мяняць профіль, што, зразумела, патрабуе вялікіх капіталаўкладанняў.

(Заканчэнне на 3-й стар.)

*Увага!*

## У "Эпіцэнтры" падзей

**Творчае аб'яднанне грамадскіх і сацыяльна-эканамічных праграм Беларускага тэлебачання сумесна з прэс-службай Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь пачынае новы цыкл перадач пад назвай "ЭПІЦЭНТР".**

Прынамсі, чаму такую назву атрымала праграма? Мяркуем, што менавіта парламент павінен стаць "эпіцэнтрам народных дум", як калісьці выказаўся беларускі паэт Юрась Свірка. Ад парламента разыходзяцца хвалямі законы, па якіх будуецца дэмакратычная Беларусь. У Вярхоўны Савет ідуць хвалі наказаў, скаргаў, прапаноў выбаршчыкаў...

У першай праграме творчая група спрабуе даць партрэт парламента на фоне часу, вызначыць яго ролю і крытэрыі работы.

Надалей у перадачы мяркуецца ўсталяваць трывалую сувязь паміж выбраннікамі і выбаршчыкамі, зрабіць экскурс у гісторыю станаўлення беларускай дзяржаўнасці, абмяркоўваць найбольш значныя і спрэчныя праекты законаў, паказваць нованароджаных палітыкаў і г.д.

Плануецца запрашаць у студыю незалежных экспертаў — палітолагаў, эканамістаў, сацыёлагаў, юрыстаў. Прадастаўляць эфір людзям з рознымі пунктамі гледжання на заканатворчую дзейнасць парламента, выкарыстоўваць сацыялагічныя даследаванні...

Сёння, 27 студзеня, у 19.40 глядзіце першы выхад праграмы "ЭПІЦЭНТР" — "Вярхоўны Савет: партрэт на фоне часу".

*Рэзананс*

# На якой мове размаўляць беларусу?

**Працягваем размову аб праблемах мовы, распачатую публікацыяй пісьма ў рэдакцыю "Не пустим детей в белорусскую школу" і каментарыем да яго: "Горько и страшно!", змешчаных 9 чэрвеня 1992г.**

## Пачатак правакацыі?

Паважаная "Народная газета"!

Рыхтуецца да прыняцця новая Канстытуцыя суверэннай Рэспублікі Беларусь, дзе мяркуецца пацвердзіць статус беларускай мовы як мовы дзяржаўнай. Гэты статус нашай роднай мовы быў адноўлены "Законам аб мовах у БССР" пасля таго, як яна была забаронена царскімі расійскімі ўладамі.

Менавіта таму дзяржаўны статус беларускай мовы і не дае спакою мясцовым інтэрнацыяналістам: неакамуністам-"чыкінцам", мясцовай наменклатуры і беларускай квазіінтэлігенцыі, прарасійскім нацыянал-патрыётам, якія не прывыклі бачыць хоць нейкую інтэлектуальную канкурэнцыю з боку носьбітаў беларускай мовы.

Ненавіснікі беларускай мовы, а прасцей, "інтэры", як іх клічуць ва ўсіх краінах СНД, намагаюцца дэстабілізаваць нацыянальную сітуацыю і на Беларусі. Для гэтага разгортваюцца абсалютна надуманыя кампаніі супраць дзяржаўнасці беларускай мовы ў пракамуністычным рускамоўным друку, праводзяцца тэндэнцыйныя, нерэпрэзентацыйныя і аднабокія апытанні нашага і так змарнаванага насельніцтва па пытаннях будучага статуса беларускай мовы.

Робіцца гэта для таго, каб пад націскам часткі дэнацыяналізаванага насельніцтва, іх "голасу народнага" прымусіць парламент прыняць дзяржаўнасць рускай і беларускай моў.

"Змагары" супраць беларушчыны добра разумеюць, што такім чынам будзе нанесены апошні смяротны ўдар па беларускай мове, бо такім чынам будуць поўнасцю паралізаваны ўсе цяперашнія намаганні па беларусізацыі нашага нацыянальнага жыцця. Ды і зараз яны праводзяцца толькі аматарамі-энтузіястамі. А што будзе, калі будзе рэвізаваны ўжо даўно прыняты Закон аб мовах на Беларусі? Нават цяжка сабе ўявіць...

Таму я заклікаю ўсіх нацыянальна свядомых людзей Беларусі: "Будзем не толькі памяркоўнымі, але і пільнымі, згуртаванымі супраць намаганняў мясцовых "інтэраў" на ўзроўні Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь задушыць тут усё беларускае: і мову, і мастацтва, і друк..."

Сёння, як ніколі, патрэбна тлумачальная работа ў гэтым кірунку. Напрыклад, чаму б С.С.Шушкевічу не адкласці ўсе свае справы і не выступіць па гэтаму пытанню перад народам Беларусі? Мо, хопіць ужо маўчаць і быць "памяркоўным"? А то можа так здарыцца, што творы пісьменніка С. Шушкевіча, бацькі сённяшняга Старшыні Вярхоўнага Савета, праз некаторы час прачытаць ужо ніхто не зможа. Ці будзе перспектыва ў такой нацыі? Сумняваюся.

**А.МЯЛЬГУЙ.**

*г.Мінск.*

## Гісторыя нам не даруе

Змешчанае ў "Народнай газеце" пісьмо 17 жыхароў г.Рагачова "Не пусцім дзяцей у беларускую школу" хутчэй адлюстроўвае пункт гледжання былой вярхушкі нашага грамадства і сённяшніх багатых кааператараў, а не народных мас. Адраджэнне беларускай культуры, якое ў першую чаргу адбудзецца праз нацыянальную беларускую школу, для гэтых людзей апошняя справа. Навошта ім самім і іх дзеткам вывучаць "мужыцкую" мову?! Няхай усё ідзе па-ранейшаму. Тым больш што ва ўладзе пакуль што знаходзяцца прыхільнікі савецкага ладу жыцця. І ў аўтараў пісьма ёсць цвёрдая надзея, што іх голас будзе пачуты, іх жаданне прынята да канкрэтнага дзеяння.

Аўтары пісьма не ведаюць, што рагачоўская зямля стала творчай калыскай вядомым беларускім пісьменнікам і паэтам. Не ведаюць яны іх, не хочуць, каб ведалі і іх дзеці. Вось чаму Закон аб мовах яны называюць антынародным, прынятым супраць волі большасці людзей. Няпраўда гэта! Сапраўдныя беларусы (хоць гэта вельмі ўмоўнае параўнанне) з адабрэннем сустрэлі Закон і цяпер садзейнічаюць яго ажыццяўленню, а не перашкаджаюць гістарычнаму працэсу адраджэння беларускай нацыі.

Вяласць у ажыццяўленні важнейшага Закона аб мовах варта пераадольваць ужо сёння, не адкладваць справу на дзень заўтрашні. Гісторыя не даруе нам марудлівасці ў гэтым кірунку.

З павагай

**В.Баравец, У.Валюжаніч, В.Даманцэвіч, Г.Зайцаў, А.Ціхановіч, У.Атаманчык, А.Клімовіч, Н.Абраменка, С.Шэх, Г.Бабкоў, М.Дзейка і іншыя. Усяго 46 подпісаў.**

*Рагачоўскі раён.*

## Няўжо ж мы бяднейшыя?

Вось і надыходзіць, здаецца, той адказны час, калі не трэба панікаваць, не трэба абвінавачваць адзін другога ва ўсіх смяротных грахах, а проста ўсвядоміць сябе грамадзянінам Беларусі, усвядоміць прадстаўніком усіх народаў, што жывуць тут. Маю на ўвазе выкананне Закона аб мовах.

Мы дасюль не можам усвядоміць, што "любоў да Радзімы, да беларускай зямлі, да беларускіх песень" не можа існаваць як маральная катэгорыя без любові да мовы.

Паразважаем, чаму ж за апошнія гады ў гэтым пытанні вельмі малыя зрухі. Прайшлі ж амаль два гады, як была прынята Дэкларацыя аб дзяржаўным суверэнітэце. Беларусь наладжвае дыпламатычныя адносіны, яна падпісвае міжнародныя дагаворы. Але зрухі ў свядомасці адбываюцца вельмі марудна. Чаму?

Адказ можа быць толькі адзін: Беларусь фактычна не мае сваёй дзяржаўнай палітыкі.

Ці ж не адсюль многія і сёння саромеюцца (можа, баяцца?) назваць Беларусь краінаю?

Ці ж не адсюль мы спазняемся з многімі палітычнымі пераўтварэннямі? Ці ж не адсюль адсутнічае ў нас пасапраўднаму беларускае тэлебачанне? І пакуль гэтага не ўсвядомяць дзяржаўныя мужы, датуль будуць існаваць праблемы накшталт абмяркоўваемай. Нам проста неабходны нармальны дзяржаўны патрыятызм.

**Пятро ЖАЎНЯРОВІЧ,**
**выкладчык Мінскага ВПВ электронікі.**

*Ліст ураду і парламенту*

## Чаканне смерці падобна

На днях я вярнулася дадому пасля аперацыі з анкалагічнага дыспансера пры 1-й клінічнай бальніцы. Тое, што я там убачыла, узрушыла ўсю маю істоту. Кожны дзень на прыём прыходзіць натоўп народу з усіх куткоў рэспублікі. Адзін урач прымае па 30—40 чалавек і больш. І ўсе з апошняй надзеяй.

У хірургічным аддзяленні шпіталя ўсё да адказу забіта ложкамі. Тут і старыя, і малыя, для якіх няма асобных пакойчыкаў з гульнямі і цацкамі. Вузкі калідор, па якім возяць хворых пасля самых цяжкіх аперацый, з'яўляецца і працоўным месцам медыцынскай сястры. У гэтым жа калідоры стаіць і тэлевізар, шпацыруюць хворыя, бо няма ім больш куды прыткнуцца.

А ўмовы працы для ўрачоў? У іх няма пакоя, каб аглядаць пацыентаў.

Пра стан медыцынскага абсталявання і казаць не даводзіцца. І пры ўсім гэтым працуюць тут вялікія таленты. Мы, хворыя, не раз дзівіліся: калі ж гэта нашы ўрачы бываюць дома, бо бачылі іх па 10—12 гадзін і больш на працы, асабліва ў дні аперацый (а бываюць яны амаль штодзённа). Ці ёсць асабістае жыццё ў галоўнага ўрача Віктара Якаўлевіча Рабекі, бо ў 7 гадзін раніцы ён ужо ў шпіталі, а ў 8—10 гадзін вечара ён яшчэ гаворыць з хворымі. Дзе бяруцца ў яго тыя сілы, калі, зрабіўшы некалькі аперацый, ён ідзе ў прыёмны пакой і аглядае яшчэ дзесяткі хворых, каб зрабіць цяжкі выбар — каго ў першую чаргу пакласці ў шпіталь, а каго паставіць на чаргу, разумеючы, што кожны тыдзень адкладу можа каштаваць жыцця.

Напэўна, ужо можна спытаць у нашых мудрых кіраўнікоў: няўжо здароўе нашай нацыі, нашых дзяцей патрэбна толькі галоўнаму ўрачу В.Я.Рабеку з яго паплечнікамі? Даўно змагаюцца гэтыя людзі за новую анкалагічную бальніцу, за новае медыцынскае абсталяванне.

Вядома, зараз на ўсе пытанні адзін адказ: няма сродкаў, няма фондаў. Працуй сабе, атрымлівай зарплату, і галава няхай не баліць, думаць не трэба, бо нічагусенькі няма. Куды ж цякуць нашы грошыкі ручайкамі і цэлымі рэчкамі? Хто ў нашай чарнобыльскай зоне застрахаваны ад злаякасных пухлін, хто можа заручыцца, што гэта бяда не ахіне ўсю нашу зямлю? Наадварот, трэба хутчэй рабіць усё, каб выяўляць захворванні ў самым пачатку, бо калі ў чалавека забаліць, дык можа быць ужо і позна.

Мо і набілі аскоміну ў Міністэрстве аховы здароўя такія лісты, але я лічу, што надышоў час звярнуцца да ўрада і парламента: трэба будаваць новы анкалагічны цэнтр. І як мага хутчэй. Цесна Бараўлянам, цесна радавым шпіталям. Рак, на жаль, маладзее, і мы не можам чакаць, калі ён пераніпчыць усіх нас.

**Аліна ВАЎЧКОВА.**

*г.Мінск.*

*Взгляд на проблему*

# Почему кое-кто думает так, как думали помещики-крепостники 130 лет тому назад

**Владимир ДОВНАР,**
**фермер, доктор биологических наук, профессор**

Американские фермеры, например, ежегодно производят десятки миллионов тонн соевых бобов. Это позволяет им иметь полноценные корма и расходовать на 1 кг мяса примерно 3,5 кг зерна.

У нас такой "северной соей" могли бы стать люпины, кормовые бобы и другие зернобобовые культуры. Но колхозы и совхозы не умеют выращивать ни одну из этих культур. Поэтому посевные площади их сведены до недопустимого минимума. А каждая тонна бобов люпина желтого и белого, правильно использованная на корм, эквивалентна дополнительной тонне мяса.

Возрожденные семейные крестьянские хозяйства будут способствовать решению и ряда других проблем, например проблемы трудового и нравственного воспитания подрастающего поколения.

Нередко можно слышать утверждения, что только крупные фермерские хозяйства, до 50 гектаров пашни и более, имеют право на существование, а с мелкими нечего и возиться. При этом в качестве аргументов выдвигаются два тезиса. Есть где развернуться с техникой, и то, что товарность крупных хозяйств выше, чем мелких. Поэтому нередко предлагается сразу создавать крупные фермерские хозяйства со всей необходимой инфраструктурой. Но на это обустройство надо очень много денег. У фермера их нет, у государства — тоже.

Если следовать демократическим принципам, то вопрос о размерах фермерского хозяйства — это дело самого фермера. Те граждане, кому достаточно 3—5 гектаров, пусть эффективно работают на них, а те, кому мало, пусть возьмут 50: лишь бы отдача каждого гектара у них была не ниже. Но лучше всего, по-видимому, будет, если предусмотреть возможность постепенного, эволюционного перерастания мелких фермерских хозяйств в более крупные, если в этом появится необходимость и экономическая целесообразность. Уместно напомнить, что в наиболее развитых европейских странах 57 процентов фермерских хозяйств имеют площадь землепользования до 5 гектаров и многие из фермеров работают не только на земле.

Словом, создавать фермерские хозяйства необходимо. Но начинать надо с малого, с небольших по размерам фермерских хозяйств. Облегчить процесс выделения земли и исправить географию размещения фермерских хозяйств можно с помощью следующего ненасильственного механизма. Этот механизм основан на замене всех или почти всех видов налогов, исчисляемых от прибыли или других составляющих доходов от фермерского хозяйства, на плате за землю, устанавливаемой по конкурсно-аукционной системе за каждый участок. Тот из предполагаемых пользователей — колхоз, совхоз или фермер, — кто ежегодно больше заплатит государству за каждый гектар земли, получит право на ее использование в сельскохозяйственном производстве. Предлагаемый механизм ненасильственного отчуждения земли у прежних пользователей решает и некоторые другие вопросы — отбор наиболее способных к сельскохозяйственному труду граждан, передачу земли в наиболее эффективное ее использование, получение государством доходов за счет максимально допустимых выплат пользователем за землю, не снижающим объема и эффективности сельскохозяйственного производства. При этом полностью устраняются попытки сокрытия доходов от налогообложения, стимулируется производство (а не тормозится, как это имеет место при налогах на прибыль).

Ликвидация частной собственности, в том числе и на землю, автоматически передает ее в полное распоряжение ограниченного числа лиц, которые никогда, даже при самых благих намерениях, не смогут распорядиться ею наиболее рационально и обязательно пустят "на ветер" результаты человеческого труда, оставляя народ в нищете.

130 лет тому назад, когда происходила отмена крепостного права и крестьяне получали землю в частную собственность, большинство помещиков было против. Препятствуя введению частной собственности на землю сегодня, задумаемся, почему это наши интересы и взгляды так совпадают со взглядами и интересами помещиков-крепостников середины прошлого века?

Ликвидировать частную собственность на землю было легко — вместе с ее владельцами. Но вернуть ее народу, оказывается, не так-то просто. Естественный процесс движения и развития различных форм собственности был прерван. Поэтому теперь нельзя сразу, безо всякой оглядки передавать в частную собственность ни 50, ни 20, ни 10, ни даже 5 гектаров земли. Надо предусмотреть постепенное, эволюционное овладение землей в частную собственность небольшими порциями, зарабатывая своим высокоэффективным трудом средства для выкупа ее не по символическим, а по настоящим, рыночным ценам. Можно предложить следующую примерную схему развития частной собственности на землю для фермеров. Каждому фермеру передать бесплатно до 0,5 га земли в частную собственность, до 5 гектаров в вечное пользование с правом передачи по наследству, но без права продажи, а далее — по желанию пользователя — до 50 гектаров в аренду. Кроме того, необходимо позволить фермеру постепенно выкупить землю, переданную ему в вечное пользование. Что касается предоставления возможности выкупа в частную собственность участков земли больших, чем 5 гектаров, — право на такие решения предоставим нашим потомкам.

*Не ўсё так дрэнна!*

## Як без экзаменацыйных іспытаў, хабару і добрага дзядзькі трапіць у акадэмію?

**Аказваецца, не так і цяжка. Дастаткова добра скончыць Мінскае вышэйшае тэхнічнае вучылішча, што па вуліцы Ваўпшасава...**



Прымаюць туды хлопцаў і дзяўчат пасля дзевятага класа па конкурсу атэстатаў. А ўжо потым — трымайся! Заняткі, факультатывы, практыка — дыхнуць няма калі. Але ж на спорт ці гурткі часу стане. Праз два з паловай гады выпускныя экзамены. Можа так стацца, што на завод пойдзеш токарам, фрэзероўшчыкам ці аператарам станкоў з лічбавым праграмным кіраваннем. А найбольш дбайныя ды старанныя вучні пераводзяцца на паўтара года ў тэхнікум. (Гэта ўсё пад адным дахам.)

Тэхнікум ёсць тэхнікум. Тут патрабаванні жорсткія. Але ж і асяродак вучнёўскі больш мэтанакіраваны. Прыемна на хлопцаў глянуць. Добрыя будуць наладчыкі робатаў-маніпулятараў!

Тэхнікум прыстойна скончыў — вось тут ужо трэба сесці і крыху паразважаць. Калі без навукі свет не мілы, дык можна без усялякіх экзаменаў на трэці курс філіяла політэхнічнай акадэміі падацца і потым капейкі ад інжынерскай зарплаты да авансу берагчы. Пакуль прафесарам ці дырэктарам завода не станеш. А хочаш адразу добра жыць, дык можаш і наладчыкам застацца. Гэта ж царская прафесія і заробак нішто сабе!

Ой, божачкі, ледзь не забыўся! А як у цябе з замежнай мовай? Справа ў тым, што спонсарам гэтай цудаўстановы з'яўляецца аж сам Еўрапарламент!!! Таму па сканчэнні тэхнікума мусіш у абавязковым парадку адправіцца на практыку ў ФРГ, Англію ці мо яшчэ куды пашлюць. А там жа па-беларуску ні бум-бум! Самому прыйдзецца на замежную мову добра налягаць!

Пакуль што час яшчэ ёсць, раю мінчукам-дзевяцікласнікам добра патыліцу пачухаць ды за навуку брацца, каб неблагі атэстат мець. Жадаю поспеху!

**Міхась ЖЫЛІНСКІ.**
Фота аўтара.



*Слыхали?*

## Третейский суд по-браславски

**Бесплодные мытарства колхозной семьи Неушевых, пожелавшей увеличить свой сельхознадел, вынудили советскую власть Браславского района создать экспертную комиссию для разбора подобных случаев.**

Теперь каждый отказ колхозно-совхозного начальства в выделении угодий местным жителям и приезжим будет изучать третейский суд под председательством начальника исполкомовского отдела по земельной реформе Анатолия Сафонова. В составе комиссии есть, кстати, и журналист. Для гласности.

**Юрий АНТОНОВ.**

*Памяць*

## Адзначым Дзень мужнасці

**Маладзечанскае аддзяленне Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны і Маладзечанскі гарвыканкам звярнуліся да жыхароў Беларусі з прапановай аб'явіць апошнюю суботу лютага Днём мужнасці.**

У гэты дзень на прадпрыемствах і ў арганізацыях, навучальных установах, воінскіх часцях прапануецца правесці ўрачыстыя мерапрыемствы, дзе будзе аддадзена даніна павагі памяці мужных людзей, нашых абаронцаў — былых, сённяшніх і будучых. Усіх тых, хто сваёй ваеннай, працоўнай і творчай доблесцю ўмацоўваў і ўмацоўвае незалежнасць рэспублікі.

Дарэчы кажучы, у гэтым годзе спаўняецца 130 гадоў з таго дня, як беларускі народ пад кіраўніцтвам свайго слаўнага сына Кастуся Каліноўскага ўзняўся на барацьбу за свабоду нашай дзяржавы.

Важкі довад для таго, каб прапануемы Дзень мужнасці заняў сваё дастойнае месца ў календары.

**Ігар МАЦВЕЕЎ.**

## Анархия — не мать порядка

**Совмин Беларуси принял довольно крутые меры по укреплению дисциплины межхозяйственных связей. В нынешнем году четко очерчена ответственность за это организаций и предприятий.**

Установлено, что за необоснованный отказ или уклонение от заключения хозяйственных договоров в соответствии с заказом на поставку продукции для государственных нужд с поставщика в пользу покупателя взыскивается штраф в размере стоимости не принятого к выполнению заказа. При непредъявлении иска штраф взимается в доход республиканского бюджета.

В случае недопоставки продукции покупатель имеет право взыскать неустойку. Она определяется половиной стоимости невыполненного заказа.

Имущественная ответственность предприятий и организаций за невыполнение договоров на поставку продукции в страны ближнего зарубежья определяется по согласию сторон. Однако и здесь есть одно "но". Таковое согласие может быть достигнуто, если ответственность не установлена в соглашении от 20 марта 1992 года об общих условиях поставки товаров между организациями государств — членов СНГ либо в двусторонних межправительственных соглашениях.

**Валерий ДРОЗДОВ.**

*Репортер узнал*

## А по зубам?

**Президент и совет недавно зарегистрированной Минюстом Белорусской стоматологической ассоциации рассчитывают, что в ближайшее время организация объединит примерно половину стоматологов республики.**

Члены ассоциации собираются составить альтернативу государственной стоматологической помощи, а также контролировать качество труда работающих по патенту стоматологов, апробировать новые приборы и инструментарий, поддерживать связь с мировым зубоврачебным движением.

**Наталья КУРОПАТКИНА.**

## Серафима Саровского вспомнили на Беларуси

**Городское общество русской культуры "Русь" отметило 160-летие со дня преставления преподобного Серафима Саровского, православного святого.**

По благословению митрополита Минского и Слуцкого Филарета к этой дате был приурочен торжественный вечер, на котором священники Минской епархии прочитали доклады об учении и жизни преподобного, с духовными песнопениями выступили детские хоры, для любителей живописи были выставлены иконы и картины, посвященные Саровскому.

**Татьяна ЩЕБЕТ,**
**БелаПАН.**

## Даешь ядерную кнопку!

**Под пальцем Кравчука может появиться своя ядерная кнопка**

**Как сообщил генеральный конструктор НПО "Хартрон" профессор Яков Айзенберг в интервью газете "Киевские ведомости", из 176 МБР, дислоцированных на территории Украины, большая часть оснащена системами управления, разработанными НПО "Хартрон".**

И хотя центр управления ядерными ракетами находится в Москве, есть возможность установки собственного, украинского ключа, блокирующего команду на запуск, если она не согласована с президентом Украины.

Технически возможно создать на Украине и полномасштабную систему боевого управления, ставящую МБР под полный контроль. "Но это безумно дорого, ибо дело не только в запуске, а в ежесекундном обеспечении жизнедеятельности всего ракетного комплекса".

**"Харьков-Новости" — РИД.**

